# Рабочы Бабруйска

01-07 июня 2000 г. Наклад 299 ас. Паштовая адраса: 213 807, Бабруйск, а/с 94, www.bobruisk.net Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА. №19


КАНТАКТЫ

## ВЫБАРЫ І БУДУЧАЕ БЕЛАРУСІ

28 траўня ў кавярні "Алёнушка" адбыўся круглы стол пад назвай "Выбары і будучае Беларусі", зладжаны Беларускай арганізацыяй працоўных жанчын (БАПЖ). У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, палітычных партый, прадстаўнікі мясцовых улад… Былі запрошаны і дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Ю.Кулакоўскі і М.Вінакурава, старшыня Канстытуцыйнага суда Р.Васілевіч. Але прысутныя нікога з іх не ўбачылі: спаслаўшыся на неадкладныя справы, прадстаўнікі заканадаўчай і судовай улады ад запрашэння адмовіліся.

На жаль, не пачулі прысутныя выступы прадстаўнікоў мясцовых улад. Ніхто з іх не змог адказаць на пытанне «Якія перспектывы развіцця горада Бабруйска?». Дэпутат гарсавета, дырэктар СШ №10 Галіна Міхеева і загадчык аддзела Бабруйскага гарвыканкама па сувязях з грамадскімі арганізацыямі сп.Чарняк на прапанову выступіць адказвалі аднолькава «Нас ніхто не ўпаўнаважваў».

Прапануем чытачам найбольш цікавыя вытрымкі з выступаў дакладчыкаў.

**Уладзімір Нісцюк, дэпутат Вярхоўнага Савета XIII склікання:**

- Знешні доўг Беларусі – 1 мільярд долараў. Пошук ворагаў фактычна ўжо прывёў да міжнароднай ізаляцыі. Нацыя вымірае: кожны год дзяржава страчвае адзін раённы цэнтр ці 30 тысяч чалавек. Сярэдняя працягласць жыцця за апошнія 5 год знізілася на 3,5 года. Калі ў маленькім азіяцкім Тайвані рэзервы нацыянальнага банка складаюць 84 мільярда долараў, наш запас – меньш за 100 мільёнаў… Стратэгія выхада з крызіса падразумляе два варыянты: дэмакратычны (праз выбары) і рэвалюцыйны. Выснова: выбары - стратэгічны шлях выхада з сітуацыі, што цяпер утварылася.

**Юрась Хадыка, прафесар, намеснік старшыні БНФ "Адраджэнне":**

- Лічыць сёння законным прэзідэнта Лукашэнку няма ніякіх падстаў. Тэрмін яго прэзідэнцтва даўно скончыўся. Але трэба быць ідыётам, каб заклікаць да рэвалюцыі, калі ўсё можна вырашыць мірным шляхам. Апазіцыя яшчэ не прымала рашэння - ісці на выбары, ці не. Няма такіх палітычных партый, якія б не хацелі выбараў. Аднак, сэнс удзельнічаць у выбарах існуе толькі пры наступных умовах: доступ да СМІ, прывядзенне выбарчага заканадаўства ў адпаведнасць дэмакратычным нормам (галасаванне па партыйных спісах і празрыстасць выбарчых камісій), наданне парламенту агульнапрызнаных правоў заканадаўчага органу, спыненне націску на палітычных апанентаў.

**Таццяна Ваніна, старшыня Беларускага жаночага руху "Адраджэнне Айчыны":**

- Хто б ні прыйшоў да ўлады, вынікі будуць мізэрнымі, калі большасць людзей застанецца сядзець і чакаць, хто ім што зробіць і што дасць. Вырашэнне маленькіх праблем часта залежыць ад нашай уласнай волі.

У дэбатах актыўны ўдзел прынялі старшыня БАПЖ Марыя Аліева, намеснік рэдактара газеты "Рабочы" Ірына Жыхар, старшыня мясцовага аб'яднання БАПЖ Наталля Цымбурская. Тэмы, якія абмяркоўваліся за круглым сталом, не вычэрпваліся загадзя зацверджанай праграмай. Жаданне актыўна ўдзельнічаць ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, выказанае выступаўшымі жанчынамі, выклікае павагу. Аднак шматлікія папрокі ў бок мужчын мне падаліся перабольшанымі. Хіба толькі яны павінны ў тым, што дзяржавай кіруе выключна мацнейшы пол у асобе аднаго чалавека?

Цікавая і змястоўная дыскусія, пачатая за круглам сталом, неўзабаве скончылася за сталом "швецкім". У далейшых планах БАПЖ – правесці гэткія мерапрыемствы яшчэ ў 9 гарадах Беларусі.

**Віктар КАЧАН.**

ПЕРСОНА

## ТАТЬЯНА КОПЕЦ: «ЖЕНЩИНА В ПОЛИТИКУ НЕСЕТ ИДЕЮ МИРА, ЛЮБВИ, СОЗИДАНИЯ...»

**Эта чуткая молодая женщина успевает все и везде. Ее неутомимость, терпение, смелость помогли ей за короткий срок возглавить Бобруйскую организацию "Гражданский Форум", открыть региональный информационный центр, стать редактором бюллетеня "Мой горад". Знакомьтесь – Татьяна КОПЕЦ.**

***— Татьяна, расскажи, как ты пришла в общественный сектор? Что тебя заставило вырваться из круга "семья – работа - подруги".***

— У меня вырос сын. Ему сейчас 9 лет. Я почувствовала, что он уже не нуждается в моей ежеминутной опеке, что ему нужно больше самостоятельности. На тот момент не осознавала, что найду себя, занимаясь общественной деятельностью. Я стала более уверенной в себе, более женственной. Познакомилась с интересными людьми, обрела новых друзей… А случилось это так. Взяла както городскую газету и прочла объявление о правозащитном центре при клубе избирателей. Это было начало. Потом поняла, что больше склонна к работе с молодежью и так доросла до председателя «Гражданского Форума». А если сказать одной фразой – стало интереснее жить!

***— Я знаю, что ты работаешь преподавателем в механико-технологическом техникуме. Как складываются отношения с коллегами?***

— К сожалению, понимают не все. Из-за проводимой властями пропаганды многие думают, что членство в какой-либо неправительственной партии или организации, крамола. Боятся всякой информации о политической жизни Беларуси. А есть люди, которые поддерживают меня.

***— В чем ты видишь оздоровление беларусской политики?***

— В приходе туда женщин. Опыт любой развитой страны доказывает, что женщины должны управлять государством наравне с мужчинами. Я думаю, что женщина-политик, одним своим присутствием заставляет мужчин-коллег вести себя сдержаннее, благороднее. И как правило, женщина в политику несет идею мира, любви, созидания.

***— Каким ты видишь будущее города?***

— Будущее Бобруйска я рассматриваю в контексте развития Беларуси. Беларусь – свободное независимое европейское государство. Бобруйск – богатый, процветающий, уютный, привлекательный город. Я верю, что мы придем к этому, – наши дети будут жить счастливо…

**Беседовала Дана ЧИГИРЬ.**



ПРОИСШЕСТВИЕ

## Теле-теле-тесто...

С самого утра в среду 24 мая многие бобруйчане, проживающие в Первомайском районе, более чем на сутки оказались лишенными почетного звания "телезрителя". Натужное переключение каналов ни к чему не приводило, – экранное изображение отсутствовало.

Как нам удалось выяснить, причиной этого чрезвычайного происшествия явился скачек электроэнергии, в результате которого сгорели усилители. И, как следствие, по треугольнику из улиц Рокоссовского – Ульяновская – Гагарина телевизионный сигнал был "отрезан". Теперь – другой вопрос: почему ремонтные работы были проведены, скажем так, не очень оперативно? Дело в том, что антенщики телекомпании "Веста" уже давно работают "за спасибо", – средневестовская задержка по зарплате составляет три месяца, – поэтому особого рвения к трудовой деятельности в среде обслуживающего персонала в этот день отмечено не было.

А безденежье "Весты", в свою очередь, объясняется тем, что большинство пользователей коллективных антенн явно не горят желанием свое пользование оплачивать. Лишь каждый десятый своевременно вносит необходимую сумму. Причем, – парадокс! – сознательно платит, в основном, малообеспеченная часть населения.

Особняком стоит ситуация с некоторыми домами на улице Гагарина. В домах 31а и 33а телесигнал очень слабый, так как у "Весты" нет средств, чтобы закупить сюда нужное оборудование. А в квартирах домов 5б и 33 телевизор давно уже стал безмолвной частью мебели, – злоумышленниками украден дорогостоящий кабель. Следствие ведется, но на улучшение ситуации это не влияет.

И напоследок информация под рабочим названием "Шухер". Из достоверных источников нам стало известно, что в течение июня телекомпания "Веста", силами наиболее обаятельных и мускулистых сотрудников, будет проводить "рейд по неплательщикам". Так что, ждите тревожный звонок в дверь. Или заплатите эти несчастные три сотни. Может, тогда и усилители гореть перестанут.

**А.ЛИТВИНОВ.**

КУЛЬТУРА

## Выпускны у "Бабранят"

21 мая ў ДК "Шыннік" узорны ансамбль танца "Бабраня" даваў справаздачны канцэрт. Як заўсёды, у зале не было дзе яблыку ўпасці, бо, акрамя проста гледачоў, прысутнічалі бацькі, дзядулі і бабулі, браты і сёстры артыстаў. У ансамблі танцуюць дзеці ад 6-ці да 18-ці гадоў. (Раскрыю маленькі сакрэт: у ансамбль "Юнацтва" пераводзяць не толькі па ўзросту, але і па росту.) Хаця малодшыя танцоры вельмі хваляваліся, у жартоўных харэаграфічных сцэнках адчувалі сябе натуральна. На "ура" былі прыняты залаю "Кошкі-мышкі", "Вясёлы тэлефон", "Смелыя гангстэры".

Старэйшая група ансамбля паказала гледачам танцы пяці народаў свету. За роднымі беларускімі "Дударыкамі" і "Ківухаю" ішлі рускі "Чырвоны сарафан", імпэтны латышскі танец "Ткачы", шляхетны польскі "Кракавяк", ганарлівы іспанскі "Пасадобль".

Калі ў іншых танцавальных ансамблях мала хлопцаў, у "Бабраня" такой праблемы няма. У цудоўным танцы "Маракі" занята ажно 53 хлопцы. Дарэчы, у гэтым танцы ў вялізнай каструлі на сцэну выносяць сына харэографа Аляксандра Герасімава (публіка ведае яго як пана Быкоўскага), які калісці і сам пачынаў кар'еру з гэткай жа каструлі.

Закончыўся канцэрт "Школьным вальсам", у якім выйшлі 14 выпускнікоў "Бабраняці". Цяпер яны будуць танцаваць у знакамітым "Юнацтве".

**Людміла РОДЗІКАВА.**

КРИМИНАЛ

## Погоня, выстрелы, граната

Настоящий вестерн с поправкой на наши дни недавно можно было наблюдать вживую в Бобруйском районе, около деревни Плесы. Завидев мчащийся на них "Фольксваген-Гольф", сотрудники ГАИ дали команду водителю остановиться. Вместо этого "ковбой" надавил на газ. Началось преследование, длившееся около получаса. Затем прозвучали выстрелы – один из инспекторов вел прицельный огонь по колесам преследуемой машины. После этого водитель вынужден был затормозить. Оказалось, что за рулем был 16-летний житель Бобруйска, учащийся одной из средних школ города, а машина принадлежала его отцу. В салоне автомобиля сотрудники ГАИ обнаружили редкий "натюрморт": бутылка самогонки и рядом боевая граната "Ф-1", правда, без запала. По словам подростка, он нашел ее в земле на дачном участке родителей. Так ли это – предстоит выяснить следствию.

**Анатолий САНОТЕНКО.**

55-81-78 Каждый четверг с 15:00 до 18:00 вас слушает «Рабочы Бабруйска»

СПОРТ

**15 траўня ў 6 туры нацыянальнага чэмпіяната Беларусі па футболу бабруйская "Белшына" падзяліла ачкі у Наваполацку з "Нафтанам-Дзевонам". Гол на рахунку Эдуарда Градабоева. А 20-га, у паўфінале Кубка Беларусі, бабруйчане сустракаліся ў гасцях з клубам "Тарпеда-МАЗ" (Мінск). Прапусціўшы гол за некалькі хвілін да заканчэння асноўнага часу гульні, нашы футбалісты выбылі з барацьбы за прэстыжны трафей, страціўшы тым самым шанц згуляць у гэтым годзе ў еўракубках. Апошнім часам пагроза адстаўкі "дамоклавым мячом" вісела над трэнерскім штабам, але ўсё неяк абыходзілася. Гром грымнуў 24-га, яшчэ да гульні з мінскім "Дынама". Алег Волах ды Іван Савосцікаў за гэтым матчам 7 тура сачылі, знаходзячыся ўжо не на "трэнерскім мосціку", а на трыбуне, побач са звычайнымі заўзятарамі футбола.**

# КАНЕЦ ІЛЮЗІЯМ

На матч у Бабруйску са сталічным "Дынама" часова прызначаны выконваючым абавязкі галоўнага трэнера, былы белшынаўскі нападаючы (прозвішча якога яшчэ і зараз унесена ў заявачны спіс) Андрэй Хлебасолаў вызначыў наступны стартавы склад каманды: варатар Жэмчугаў; абаронцы – Шагойка, Балтрушэвіч, Кашкар, Хрыпач; паўабаронцы – І. Градабоеў, Э. Градабоеў, Банул; нападаючыя - Балашоў, Каролік, Дземідчык. Са свістком арбітра гаспадары настойліва пайшлі наперад. Спачатку хутканогі Балашоў выходзіць на рандэву з варатаром гасцей Афанасенкам, але той у апошні момант пасвявае адвесці пагрозу. Яшчэ праз некалькі хвілін вуглавы ўдар выконвае Банул. Пасля рыкашэту ад абаронцы мяч трапляе да Эдуарда Градабоева. Дакладным ударам у вугал варот ён і адкрывае лік. Хутка дабіўшыся поспеху, "Белшына" па інэрцыі яшчэ працягвала атакаваць, стварыўшы некалькі небяспечных момантаў, аднак ударам І. Градабоева і Кароліка не хапала галоўнага – дакладнасці. Сталічныя футбалісты, між тым, паціху ачуналі. Як след, на 26-й хвіліне пасля таго, як мяч пакітусіўся ў частаколе ног, з ім сустракаецца дынамаўскі паўабаронца Уладзімір Вострыкаў. Удар атрымоўваецца прыгожым і выніковым. Мабільныя ігракі мінчан перахопліваюць ініцыятыву, дэманструючы добры рух, а галоўнае – веданне, што рабіць, і як.

У пачатку другога тайма замест Дземідчыка на полі з'яўляецца Ланько. Зноў чаша шаляў змяняе характар супрацьстаяння. Зручны момант не выкарыстоўвае Балашоў. Знаходзячыся спіной да дынамаўскіх варот, ён атрымоўвае мяч, рэзка разварочваецца і кручаным ударам б'е, – Афанасенка з цяжкасцю пераводзіць мяч на вуглавы. На 71-й хвіліне госці праводзяць імклівую контратаку (праваліўся Хрыпач), і Трэпачкіна давялося сустракаць у штрафной Балтрушэвічу, які здолеў-такі мяч выбіць. Суддзя Архіпаў прызначыў небяспрэчны пенальці, які ўпэўнена рэалізоўвае Кавальчук – 1:2. "Белшына" усёй камандай пабегла адыгрывацца, а госці, як вядома, цудоўна ўмеюць выкарыстоўваць свабодную прастору. І за дзесяць хвілін да заканчэння паядынку Разін, Вяцёлкін ды Уладзімір Вострыкаў узорна-паказальна ўбеглі ў адрыў і без праблем разабраліся з Жэмчугавым, такім чынам усталяваўшы канчатковы лік 1:3.

Вось ужо ў чатырох запар матчах чэмпіяната "Белшына" не можа дабіцца перамогі. Чарговая няўдача адкінула каманду на 10 месца (8 ачкоў). Далёка на перадзе знаходзяцца сталічнае "Дынама" і мазырская "Славія" – па 17 ачкоў. У "Нёмана-Белкарда" (Гродна) – 14.

Зараз ідзе актыўны пошук трэнераў, але жадаючых стаць "камікадзе", мяркую, будзе не шмат, бо трэнерскія адстаўкі ў клубе – з'явы немінучыя. "Каманда, якая трэніруе сама сябе", – так кажуць аб "Белшыне" футбольныя спецыялісты. Насцярожвае такі момант: ігракі, якія не могуць раскрыць патэнцыял тут, пераходзячы ў іншыя клубы, раптам пачынаюць ззяць усімі гранямі свайго таленту. Прыклады? Ды колькі хочаце: Кавалевіч ("Гомель"), Гамановіч ("Нафтан-Дзевон"), Міхалёў і Турчыновіч ("Маладзечна"). І наадварот – даволі моцныя па беларускіх мерках футбалісты магілёўскага "Дняпра-Трансмаша" Свердлаў, Балтрушэвіч, Клімовіч, Ланько, прыйшоўшы ў Бабруйск, ператварыліся ў даволі пасрэдных ігракоў, дарэчы, як і ўсе астатнія навабранцы, якія ў мінулым годзе з'яўляліся лідэрамі ў сваіх былых камандах.

Пасля гэтай паразы канчаткова развеяліся апошнія ілюзіі балельшчыкаў, якія спадзяваліся, што "Белшына" здолее ў гэтым сезоне прэтэндаваць прынамсі на пападанне ў прызёры. Аказалася, што сабраць пад свае сцягі моцных футбалістаў яшчэ не значыць стварыць моцны клуб. Падобна на тое, што гэты год стане копіяй года мінулага.

Наступную гульню на сваім полі бабруйчане правядуць 8 чэрвеня з магілёўскім "Тарпеда-Кадзіна". Магчыма нялішнім будзе прыхапіць на стадыён пачак "Валідола"...

**Віктар КАЧАН.**

ПРЕМЬЕРА

# Бродвей приземлился в Бобруйске

В культурно-спортивном комплексе «Шинник» состоялась премьера мюзикла по сказке Леонида Филатова "Про Федота-стрельца, удалого молодца". Поставила мюзикл режиссер молодежного музыкального театра «Слуги трех муз» Майя Кузнецова. Музыку написал ее муж, художественный руководитель театра, композитор Валерий Кузнецов. Постановка танцев Галины Попович. Благодаря творческому союзу этих талантливых людей, мюзикл получился вполне на уровне бродвейских постановок. Большое, (при участии около ста молодых артистов) яркое шоу, длившееся два с половиной часа, было сыграно и воспринято публикой «на одном дыхании». Способствовал его успеху и благодатный материал - «сказка для театра», написанная Леонидом Филатовым по мотивам славянского фольклора.

Сама стихотворная пьеса Филатова не оставит никого равнодушным, рассмешит любого, а если присовокупить к ней прекрасную режиссерскую работу, точное попадание в образ молодых артистов, игравших, как заправские мэтры комедийного жанра, наполнить ее мелодичной музыкой, хорошим вокалом, сдобрить ненавязчивой, продуманной сценографией и неординарной хореографией, то станет понятно, что мюзикл был обречен на успех. На протяжении двух с половиной часов зрителям было по-настоящему смешно не только от «юморных» реплик героев сказки, щедро рассыпанных ее автором по тексту, но и от игры актеров, которые сумели-таки справиться со сверхзадачей: смешное сделать очень смешным. Словом, если на эту премьеру случайно забрел бы профессиональный ипохондрик, то, безусловно, его вечер был бы безнадежно испорчен непривычной веселостью и неудержимым гомерическим хохотом, вырывавшимся у каждого из присутствующих помимо воли. Например, когда на сцене появлялся один из героев сказки – генерал-дурак, обвешанный спереди и сзади медалями, с «генеральским» животиком, явно смещающим центр тяжести «бравого» вояки, с усами во все стороны и скошенным набок ртом. Хороши были также и пародийно нимфеточная царевна, и ее батюшка царь, и говорливый «впопад» потешник, и сам «супергерой» – находчивый Федот-стрелец. Местами это был полный модерн. Сольные партии и дуэты, массовые танцы, точно рассчитанные эффекты насыщали зрительское восприятие в полном объеме. Казалось, что публика была готова смотреть это очень современное и безумно смешное шоу бесконечно.

Молодежный музыкальный театр «Слуги трех муз» уже имеет свою небольшую историю. Это вторая постановка театра: в 1998 году супругами Кузнецовыми был создан и так же триумфально показан музыкальный спектакль «Спакуса», поставленный по мотивам повести Ольги Ипатовои «Прадыслава». Авторами была выбрана крайне сложная тема – мирской и духовный путь беларусской святой Ефросиньи Полоцкой, утверждение христианства в Полоцком княжестве в 12 веке. По словам режиссера Майи Кузнецовой, они планируют продолжить "разрабатывать" национальную тему, есть уже идея обратиться к истории другой к легендарной личности – полоцкой княжне Рогнеде. А кроме того, есть замысел поставить аллегорический мюзикл, где действующими лицами были бы животные.

Но это – в будущем. А пока – с премьерой вас, господа артисты и авторы постановки!

**Анатолий САНОТЕНКО.**

КУШАТЬ ПОДАНО

# Должна быть в ливерке какая-то загадка...

В теории языковедения есть термин "оксюморон" (от греч. oxymoron – "остроумно-глупое"). Это когда в одном словосочетании или предложении соединяются несовместимые по значению слова, например: "Горячий снег", "Мертвые души" и т.д. Используется такой прием исключительно в художественной речи, намеренно, для придания эмоциональной окраски. В жизненных же серьезных ситуациях применение оксюморона как минимум неостроумно, а как максимум глупо.

Но реальность частенько рушит устоявшиеся догмы. Примером тому может служить появившаяся недавно в продаже новая разновидность ливерной колбасы: "Колбаса ливерная растительная". Если вдуматься в это название, то получается соединение несоединимого. "Ливер" в переводе с английского – "печень". Отечественная ливерка печенью никогда ощутимо не пахла – все больше разными добавками. Но данная формулировка сего месива – это вообще из ряда вон. Где, скажите, на каких полях страны родной произрастает растение под названием "печень"? А может быть, к разряду растительных следует относить потроха идущих на убой домашних животных? Внутриутробные разные там печенки-селезенки, кишки и мочевые, извините, пузырьки ведь тоже развиваются, растут вместе с самим животным. Загадка.

Предназначается колбаска, в первую очередь, для продажи инвалидам. Цена – три с половиной сотни. Вкусовые качества отсутствуют. На витрине, тем не менее, не залеживается. Эх, любит же наш народ загадки разные разгадывать! И все ему, "памяркоўнаму", по зубам...

**А. ЛИТВИНОВ.**

АНЕКДОТЫ

*Садится хохол в поезд, заходит в вагон, нашел свое купе. Открывает дверь, а там три негра сидят! Хохол:*

*– Хлопцы! Шо тут горело?*

*Познакомился парень с девушкой. Погуляли. Парень и говорит:*

*– Может, поедем ко мне?*

*Она отвечает:*

*– Ты знаешь, я, наверно, несовременная, но у меня такие принципы, что я решила оставаться девушкой, пока не буду уверена, что действительно люблю того мужчину, который рядом со мной.*

*– Ну что ж... Но тяжеловато, наверно, так жить ...*

*– Да, нет. Вот муж, тот психует...*

*Мужик в камышах, рыбу ловит. Над озером мгла. Вдруг где-то вдалеке крик:*

*-Аааааа...*

*Поежился, потянулся к веслу, сидит, озирается, о крючке забыл. Еще через минуту, совсем рядом:*

*-Аааааааааа...*

*Вскочил, перекрестился, схватил весло, размахнулся... Камыши раздвигаются, оттуда вываливает кто-то страшный, морда в крови...*

*Мужик его ка-а-ак шандарахнет веслом по морде!!!*

*Незнакомец (убегая в камыши):*

*- Аааааааааааааааа...*

-ПРЕДЛАГАЮ ОРГАНИЗОВАТЬ СОВМЕСТНОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ...

ПЛАТНЫЙ ТУАЛЕТ

ПИВО